Год II. Ча… 23 сакавіка 1922 г. № 4.

# РОДН… ГРАХА

Wilno
Redakcja gaz.
„Gazeta Krajowa"
ul. A. Mickiewicza 4

АДРЕС РЭДАКЦЫІ і КАНТОРЫ: Вільня, Вул. Міцкевіча (Георгіеускі) 33, кв. 4. Рэдакцыя адчынена што дня, апрача сьвят ад 10 да 12.

Цана ну… …марок. Падпіска на 1 месяц …0 м., на 3 месяцы 240 мар.

ЦАНА АБВЕСТАК: За 1 радок 1 стр.—30 мар. На апошняй—15. Для шукаючых працы на 25 проц. таней.

# Шовінізм і дэмакратыя.



Нацыянальная барацьба, калі яна пераступае межы вольнай конкурэцыі духоўных і культурных сілаў народаў і пачынае прынімаць вострыя формы, зьяўляецца прычынай слабасьці дзяржаваў, у межах каторых ідзе гэнае змаганьне.

Працэс вострай нацыянальнай барацьбы мае мейсца ва ўсіх тых дзяржавах, дзе нацыянальныя меншасьці не маюць забязпечаных законам варункаў свабоднага нацыянальнага развіцьця, чым больш закон абмяжоўвае нацыянальную свабоду, тым вастрэйшыя формы прымае нацыянальная барацьба, захопліваючы іншы раз гэтулькі энэргіі і сілы ад пануючай нацыі, што зусім разслабляе яе дзяржаўны арганізм і зьяўляецца прычынай поўнага яе развалу.

З другога боку, захопліваючы шырокія масы народу і пранікаючы глыбока ў гушчу народную, барацьба гэная становіцца барацьбою дэмакратыі і зьнішчажае яе сілы, так патрэбныя для іншых мэтаў, для здабыцьця агульна-людзкіх, дэмакратычных ідэалаў.

Гэную слабасьць дэмакратычных элемэнтаў выкарыстываюць антыдэмакрытычныя гурткі дзяржавы для сваіх клясовых, альбо чыста асабістых мэтаў і пад шум нацыянальнай барацьбы, робяць сваю брудную работу.

Што гэта так, даволі прыпомніць яшчэ нядаўнае прошлае Мікалаеўскай Расеі, ў каторай, кіраўнікі яе дзяржаўнага жыцьця ў крытычныя мінуты, калі хваля гневу народнага падымалася так высока, што пагражала змыць самадзяржаўны трон, зусім сьвядома кідалі ў масы цёмнага народу злое семя нацыянальнай вайны і пагромамі і нацыянальнымі рэпрэсыямі тушылі пажар рэвалюцыі.

У слабасьці дэмакратыі, якая была зможана нацыянальнай вайной, Мікалаеўскі ўрад ня раз чэрпаў сілы для свайго істнаваньня і толькі дзякуючы гэнай тактыцы самадзяржаўе дажыло да часу сваей натуральнай сьмерці...

Расейскія дэмакраты розных водценяў і гурткоў, добра разумелі з якой мэтай кідаюцца гэныя шовіністычныя лёзунгі і яны ведалі, што гэныя лёзунгі скіраваны на сам перш проці іх, і выкарыстоўвалі ўсе свае ўплывы на масы цёмнага расейскага народу, каб вырваць з рук Мікалаеўскага ўраду гэнае страшнае аружжа.

У Польскай дзяржаве, ў межы каторай лёс, гісторыі закінуў шмат розных народаў, якія разам ўзятыя ствараюць гэтакі значы лік, што могуць шмат заважыць на лёсах далейшага будучага Польскай дзяржавы, стварэньне варункаў свабоднага нацыянальнага развіцьця гэных народаў, з'яўляецца найважнейшым пытаньнем.

Стварэньне нармальных варункаў для нацыянальнага змаганьня знайшло часткова выражэньне ў Польскай конституцыі.

Але поўная развязка нацыянальнага пытаньня ў Польшчы яшчэ патрэбуе цэлага рада заканадаўчых актаў, каторыя, выплываючы з асноўных пунктаў конституцыі, створаць варункі свабоднага нацыянальнага разьвіцьця.

Прыслухоўваючыся да голасу дэмакратычнай польскай прэсы, мы можам сказаць, што яна добра разумее ўсё значэньне для рэалізацыі сваіх дэмакратычных ідэалаў, стварэньне варункаў роўнай нацыянальнай свабоды.

З другога боку мы бачым так сама, што антыдэмакратычныя гурткі Польшчы, вядуць з імі заядлую барацьбу і карыстаючы з пэрыяду пераходнага, калі конституцыя прынятая польскім соймам, яшчэ ня ўведзена ў жыцьцё і фактычна істнуе толькі на паперы, стараюцца выкарыстаць гэты пераходны час, каб распаліўшы агонь нацыянальнай барацьбы, разьбіць дэмакратычныя сілы дзяржавы.

І трэба праўду сказаць, што праца польскіх шовіністаў не прападае дарма.

Яны ўжо дабіліся таго, што нацыянальная барацьба ў Польшчы іншы раз прымае характар адкрыта ворожых адносін нацыянальных меншасьцяў да усяго польскага.

Нажаль, прадстаўнікі дэмакратычных гурткоў розных народаў, заселяючых Польскую Дзяржаву, заместа таго, каб знайшоўшы супольны грунт у барацьбе за сваe супольныя агульна людзкія

дэмакратычныя ідэалы, стварыць адзін агульна дэмакратычны фронт, неяк забыўшыся і аб гістарычных законах і аб прыкладах недалёкага прошлага, йдуць на кручок чорных сілаў рэакціі і ўсе болей і болей ўблытваюцца ў сеці нацыянальнай вайны, забыўшыся, што толькі на агульна-дэмакратычным шляху яны знайдуць поўнае вырашэньне сваіх нацыянальных ідэалаў.

Час адчыніць вочы, час спыніць шовіністычны чад і, стварыўшы у межах Польскай дзяржавы адну вялікую сілу, апіраючуюся на шырокія масы народу, весьці іх на барацьбу за с'ветлую будучыну грамадзяніна Польшчы, ведаючы, што, разам з правам чалавека, народы, заселяючыя Польшчу, здабудуць сабе права свабоднага нацыянальнага развіцьця.

У. М.

# Старадаунае „Veto.“

Што-ж у канцы канцоў зрабіў Віленскі Сойм

Вырашыў пытаньне аб Віленскай справе, выбраў з пасярод сябе дэлегацыю з 20 чалавек і выслаў яе ў Варшаву.

Згодна пастановы Сойм Віленскі — ў справе Віленшчыны — паддаваўся распараджэньням Польшчы—Варшавы.

Тымчасам, калі дэлегацыя Віленскага Сойму прыбыла ў Варшаву, і польскі ўрад запрапанаваў ёй падпісаньне патрэбных для Віленшчыны варункаў — дэлегацыя гэта адмовілася ад падпісаньня таго, што паводлуг польскага ўраду ўважалася, асабліва ў сучасны палітычны момант, за найбольш патрэбнае. Падпісаць гэты акт—адмовіліся „ендэкі“ і двух паслоў выбраных ад „Рад Людовых“. Не падпісалі самыя чарнасоцэнцы. Яны паставілі сваё даўнейшае „veto“, якое калісь-то згубіла Польшчу.

Губіць лёгка, а ратаваць—цяжка...

Гэтае непадпісаньне выклікала ў Польшчы міністэрскі крызыс, зьніжку польскай маркі і вялікую дарагоўлю жыцьця, якую мы цяпер на сваіх гарбох адчуваем.

Ці гэтыя людзі, запраўды, кіраваліся ў даным выпадку вялікаю любоўю да сваей Бацькаўшчыны, ці толькі асабістымі мэтамі?

Чаго ня зробіць родны і добры сын для дабра сваіх бацькоў, каб ім жылося як найлепш? Калі ён аб гэтым ня думае і свае асабістыя інтарэсы ставіць вышэй над усё,—дык ён не абаронца сваей сям'і, але яе вораг.

На якія ўступкі ня пойдзе той на карысьць таго, каго ён вельмі любіць? Зробіць усё, каб толькі добра было. А што-ж атрымоўваецца з непадпісаньня акту? Згуба краю. Вынікі гэтага перакорства мы ўжо адчулі на сабе. А што яшчэ будучае нам апрыч гэтага нясе? — мы ня ведаем, але хіба што нічога добрага.

Народ, выбіраючы паслоў у Віленскі Сойм, спадзяваўся, што гэты Сойм урэшце спыніць усе тыя недарэчнасьці, якія, як-ніяк, а ўсё-ж ткі ў Віленшчыне адчуваліся, і пасьля гэтага закрасуе для нас спакойнае жыцьцё.

Так, яно закрасавала, але закрасавала не на пацеху нам, а на пацеху нашым ворагам—на паніжэньне і згубу нашу; закрасавала старадаўным згубным „veto“ (не пазваляю). Закрасавала не на пацеху сыном роднай зямлі, а на радасьць ворагам уваскросшай Польшчы.

Польшча, лепшая частка яе народу, хоча жыць з усімі як у найлепшай згодзе,—няcьці ахвяры не на аслабленьне, а на ўмацаваньне яе маладога арганізму; ня шкодзіць, а прынесьці карысьць усяму таму, што толькі польскае і пад Польшчай; дарогай узаемных уступак дайсьці да паразуменьня з усімі.

Тымчасам, як у Расеі, за часоў Мікалая II, калі як ні стараліся даказваць гэтаму цару лепшыя рускія патрыёты аб канечнасьці пэўных уступак на карысьць народу і іншых у гэтай дзяржаве народнасьцяў са стараны страшэннага імпэрыялізму, але, дзякуючы расейскаму чарнасоценству і яго подлым патаемным падшэптам, нічога не памагала, і, у канцы канцоў, гэта кансэрватыўнасьць прывяла Расею да астатэчнай згубы. Так цяпер і тут—у Польшчы--робяцца падобныя недарэчнасьці.

Каб згнябіць Начальніка Дзяржавы, каб зьніштожыць усё сучаснае—панекуль дэмакратычнае (асабліва ў нас на Беларусі), каб увесьці абсалютнае панаваньне над усімі з прадвеку сытых і самаўладна пануючых—гэтым вялікім бытцам патрыётам нават не задрыжэла рука, і не загаварыла мацней да голасу сумленьня іхняе сэрца: што яны робяць?

Не падпісалі!?

Цярпіць ад гэтага толькі Польская дзяржава і яе шчыры патрыёт—мнагацакутны народ. Цярпяць ад гэтага і іншыя няпольскія народнасьці, якія-б хацелі хоць урэшці дабіцца як найлепшых адносін з палякамі. Цярпіць ад гэтага ўся бедната, на якую цяжкай гарой зваліліся ўсе скуткі непадпісаньня эндэцкыя акту: дарагоўля і безладзьдзе павялічыліся, а спадзяванага парадку і большага ў краі ладу—як ня было, так і няма.

Не! Не патрыёты, ня людзі любячыя сваю Бацькаўшчыну, а грубыя эгаісты, самалюбы, ворагі дабра Польшчы і дабра ўсяго народу гэта робяць!..

Ня справы дзяржаўныя, а справы асабістыя, прыватныя, разлічаныя на людзкую цемнату, ў гэтым выпадку робяць свае тут інтарэсы. Не адбудова і ўмацаваньне, а разлад і гнябленьне ўводзіцца імі ў жыцьцё. І робяць гэта людзі, бытцам вельмі сьветлыя, вельмі культурныя-разумныя, якія як у дзень, так і ў ночы толькі тоя і робяць, што крычаць аб сваім патрыятызьме, аб сваей бытцам вялікай адданасьці Польшчы і польскім правам. і робяць нават гэта праз касьцёл, праз сваю хрысьціянскую веру, праз цені мучанікаў згінуўшых далёка ад Бацькаўшчыны ў страшнай няволі, за асвабаджэньне Польшчы і волю іншых гэтага краю народнасьцяў.

Калечаць, а не аздараўляюць слабы арганізм маладой Польшчы. Не карысьць, а страшную крыўду свайму народу робяць.

Але, Божачка, даруй ім, бо ня ведаюць, што твараць!..

Шкада і вялікая шкада народу, які праз іх беспатрэбна і безканечна цярпіць і пакутуе. А за што? За сваю цемнату і прадвечную няволю...

Народ ня вінават, а вінаваты тыя, якія абсалютызмам свайго становага панаваньня давялі ўжо раз Польшчу да згубы і сягоньня ў сваім шляхоц-

кім засьляпеньні да гэтай згубы даводзяць яе ізноў. Праз свой грубы шовінізм губяць ня толькі Польшчу, але і нашу Беларусь.

Няхай заслужаная пакута спадзе не на нас нявіноўных, душой і целам адданых справе дабра бяднейшага народу, а на іх крывадушнікаў і на іхнія пакаленьні. Бо нязгоду і ненавісьць ня мы, а яны паміж народам сеюць... І сеюць, бытцам, у імя дабра сваей бацькаўшчыны.

Іхні лёзунг: „Няхай сабе нас ненавідзяць, абы толькі баяліся“ і за гэту безчалавечнасьць мусяць адказаць.

В. *Хлёркаў.*

# Аб формах дзяржаунасьці.

Паміж рожнымі выбарчымі законамі, адны з іх даюць права выбараў кабетам, іншыя гэтага права не даюць.

Тыя, хто ня хоча даць кабетам права выбараў, зазвычай гаворадь: „Баба павінна ў хаце сядзець, аб хаце дбаць, гадаваць дзетак, даглядаць скацінку ды варыць страву, а не палітыкай займацца“.

Ці гэта справядліва?

Праўда, баба павінна ўсё гэта рабіць, але-ж і мужчына, таксама, павінен касіць, гараць, сеяць, дровы вазіць і г. д.

Аднак-жа нікому ня прыдзе ў галову, каб пазбаўляць усіх мужчынаў агулам права выбараў. Права выбараў у дзяржавах, дзе ёсьць парлямэнты, гэта ёсьць права пісаць законы. І мужчыны, так-сама як і бабы, аднолькава зацікаўлены у гэных законах.

Бо ці-ж не зацікаўлена баба, скажам, у зямельным законе, ў справе падаткаў, ці-ж не зацікаўлена яна ў законе аб рэкрутах, і іншых законах?

А калі гэта так, то спыненьне кабет ад выбараў ёсьць ні чым іншым, як толькі вялікай несправедлівасьцю, і агранічэньнем грамадзянскіх правоў яе.

Выбары, якія найбольш забеспячаюць правы у справе пісаньня законаў, павінны быць агульныя, простыя, роўныя, тайныя.

Толькі пры такіх выбарах народ будзе мець найвялікшы уплыў на пісаньне законаў і толькі тады будзе мець гэткія законы, якія захоча.

Гэткае выбарнае права існуе у шмат якіх дзяржавах, паміж іншым і у Польскай дзяржаве, ў склад каторай уваходзіць і частка Беларусі.

Не адзін, прачытаўшы гэныя мае словы, скажа: „Вось вы кажаце, што пры гэткіх выбарных законах, якія існуюць у Польшы, народ мае законы, якія хоча. А ці-ж у нас законы запраўды такія, якія патрэбны народу?“

На гэта я адкажу вось што: законы, якімі кіруецца цяперака наша жыцьцё далёка ня тыя, якія запраўды патрэбны народу. Але віна ў тым не выбарчага права, а уся прычына ў тым, што ў краі нашым, таксама як і ў іншых частках Польшы, толькі дзе-нідзе праводзяцца у жыцьцё законы напісаныя прадстаўнікамі польскага народу. Варшаўскі Сойм ня здолеў яшчэ напісаць усіх законаў, і дзеля гэтага ёсьць у нас шмат законаў, застаўшыхся пасьля царскай Расеі. Вось яны, гэтыя расейскія законы, гэная спадчына пасьля царызму, і путаюць наша жыцьцё.

Апроч таго, трэба ведаць, што цяперашні Сойм Варшаўскі, гэта ня ёсьць звычайны Сойм, які павінен дбаць аб розных дробных законах. У Варшаве цяперака заседае Сойм конституцыйны, главная задача каторага—напісаць законы асноўныя. А рэшту законаў будзе пісаць звычайны Сойм, да якога хутка, бо здаецца ў летку, а найпазьней у восень, будуць распісаны выбары.

Выбіраць у гэны Сойм будзем і мы і тутакі ужо трэба будзе добра падбаць, каб выбраць акуратных і пэўных людзей.

Але доволі аб выбарах.

Кажучы аб парлямэнце, як аб установе, ў каторай народ праз сваіх дэлегатаў, піша законы, трэба дадаць, што шмат у якіх дзяржавах, побач з парлямэнтам існуе яшчэ сэнат, які таксама мае большы ці меньшы уплыў на пісаньне законаў.

Спосабы выбараў у сэнат і ўплыў яго на пісаньне законаў у рожных дзяржавах—розныя. У конституцыйна-манархічных дзяржавах, часта бывае гэтак, што ў сэнаце толькі палова сэнатораў выбіраных праз народ, а другая палова пападае па назначэньню костытуцыйнага манарха. Наагул кажучы, сэнат ня ёсьць прадстаўнік усяго народу, а толькі пэўных гурткоў яго.

І дзеля гэтага найчасьцей правы сэнату зводзяцца да таго, што ён толькі разглядае законы, якія прыняты парлямэнтам і мае права альба зацьвердзіць гэны закон, альба вярнуць яго ў парлямэнт, для новага перагляду.

Зацьверджаны сэнатам закон, зараз-жа праводзіцца ў жыцьцё, а закон вернуты ў парлямэнт, мусіць быць паўторна разгледжаны праз народных дэлегатаў. І калі парлямэнт другі раз прыме яго, то закон такі праводзіцца ў жыцьцё паміма волі сэнату.

Калі правы сэнату, зводзяцца толькі да перагляду законаў, як толькі што я расказаў, то тагды ён не зьяўляецца шкоднай установай, а нават ёсьць установай патрэбнай, пажаданай.

Бо. запраўды, і парлямэнт хаця гэта і прадстаўнік усяго народу, і найвышэйшая ўстанова ў дзяржаве, але так сама можа часам абмыліцца і не дагледзіць, у парлямэнце сідзяць таксама людзі, а не мыліцца толькі адзін Бог.

Вось гэныя абмылкі, калі яны ёсьць, і можа паправіць сэнат. У сэнаторы выбіраюць толькі людзей сталых, з вялікай навукай, найчасьцей маючых вялікую практыку ў пісаньні законаў, і гэткі кантроль зьяўляецца навет зусім пажаданым.

Але калі сэнат такі мае права адмяняць законы напісаныя парлямэнтам, то тагды справа выглядае горай. Існаваньне гэткага сэнату зьяўляецца пагрозай для інтарэсаў працуючага народу, які мусіць вясьці з ім цяжкую і беспрастанную барацьбу.

Калі мы глянем на белы сьвет, то убачым, што існуе шмат дзяржаваў, якія маюць аднолькавы выбарны закон, знача народ у іх мае аднолькавы ўплыў на пісаньне законаў, тымчасам, у аднэй дзяржве парлямэнт піша гэткія законы, што людзям жыць з імі добра, народ мае свабоду, мае

багацьце,—а ў другой дзяржаве, з такім самым выбарчым законам, з такім сэнатам, народ мае такія законы, што не даюць яму вольнага жыцьця, што кідаюць яго ў нядолю і гора.

Чаму гэта так?

Чаму так ёсьць на сьвеце, што навет іншы раз у дзяржавах, у якіх народ мае зусім мала праву на пісаньне законаў, у такіх іншы раз лепей жывецца, чым у такіх дзяржавах, у каторых уся ўлада ў руках народу.

Адказ на гэта можа быць толькі адзін: парадак у дзяржаве і законы залежаць ад самага народу. Прыказка кажа: «Дурня і ў царкве бьюць», альба другая: „скажы дурню да Бога маліцца, дык ён і лоб разаб'е"...

Вось і ў справе законаў так-сама. Калі народ дасяг пэўнага разьвіцьця, калі сам добра ведае, якія яму законы патрэбны, ды патрапіць выбраць акуратных і пэўных людзей у парлямэнт, то будзе мець добрыя законы, якія палепшаць яму жыцьцё.

А калі народ ня будзе дбаць аб сабе, калі будзе цёмны, калі падчас выбараў пойдзе на розныя абяцанкі, калі не патрапіць даць наказу сваім выбраным дэлегатам, то замест добрых законаў, якія палепшылі-б яго жыцьцё, будзе мець такі закон, аб які, як той дурэнь з прыказкі — лоб разаб'е.

Кожны народ мае гэткія законы і гэтакі ўрад якіх сам „варты"—сказаў адзін знаманіты палітык.

І гэта вялікая праўда. Быў момант калі расейскі народ скінуў ярмо самадзержаўя. Справа будучыны перайшла ў яго рукі. Ен быў поўным гаспадаром Расеі. І, глядзіце да чаго дайшоў цяпер народ. Замест свабоды, здабыў горшую няволю, чым была пры цары, замест багацьця мае безбярэжнае гора. Цёмны, з душой нявольніка, ён пайшоў на вокліч бальшавікоў, якія нічога супольнага з народам ня мелі, пайшлі на іх абяцанкі-цацанкі ажно разбілі лоб, як той дурань з прыказкі.

Побач, у тым самым часе, другі народ-нямецкі, так сама скідае з сябе ярмо самадзяржаўнага Вільгэльма, таксама як і Мікалай расейскі, цара з Божай ласкі". І глядзеце, як ён наладжывае далейшае жыцьцё свае. Разбіты ў вайне, стогнучы пад бярэмям вялікай кантрыбуцыі, ён ня траціць свае даўнейшае моцы, і як даўней не перастае быць сільным і магутным і ймець вялікае значэньне ў жыцьці народаў усяго сьвету.

Чаму гета так?

Адказ ясны. Як маскалі, так і немцы, маюць гэткае правіцельства, гэткія законы, і гэткія варункі жыцьця, якіх кожны з гэных двух народаў варты.

Дык што-ж, запытаюць мяне, знача ўсё роўна для народу, ці самадзяржаўе ці конституцыйная манархія, ці-рэспубліка?

Нў ня ўсё роўна.

Праўда формы жыцьця, спосаб жыцьця багацьце яго, насамперш, залежыць ад самага народу. Але рэспубліканская форма дзяржаўнасьці дае найболып пэўнасьці, што разам з тым, як народ пачне вырастаць, з цёмнага—рабіцца сьветлым, з нявольніка—станавіцца свабодным чалавекам, — перамена законаў і стварэньне новых лепшых формаў жыцьця—пры рэспуліканскай форме дзяржаўнасьці не спаткае ніякіх перашкод і будзе пастепаць разам з агульным разьвіцьцём народу.

Пры іншых формах дзяржаўнасьці, гэтай пэўнасьці—няма.

(Канец.)

У. М.

# Справа Віленшчыны.

Агульныя паседжаньні Сойму не адбываюцца, працуюць толькі камісіі.

Процiў узнаўленьня агульных паседжаньняў высказываюцца нарадовыя дэмакраты і клюб Радаў Людовых. За созыў Сойму высказваюцца клюб дэмакратаў, P. S. L., „Odrodzenie", „Odrodzenie-Wyzwolenie" і P. P. S., а так сама і тая група, якая адкалолася ад Радаў Людовых.

У пытаньні аб далучэньні Віленшчыны да Польшчы соймавая група Радаў Людов, як і раней, стаіць за далучэньне без усялякіх агаворак.

15 красавіка г. г. адбудзецца паседжаньне Лігі Народаў, на якім, між іншым, будзе разгледжана справа Віленшчыны.

## Літоўская дэлегацыя ў Віленскім Сойме.

16-га сакавіка г. г. у Віленскі Сойм прыбыла дэлегацыя літоўцаў ся Сьвянцянскага пав. Дэлегацыя была прынята Маршалкам Сойму і прадстаў нікамі соймавых клюбаў. Віцэ-Маршалак Кржыжаноўскі прывітаў дэлегацыю ў літоўскай мове

Дэлегацыя заявіла, што „літоўцы Сьвянцянскага павету падчас выбараў да Віленскага Сойму выставілі сьпісак № 7 са сваімі кандыдатамі. Аднак гэты сьпісак быў уняважнены Цэнтральным Выбарчым Камітэтам з прычыны таго, што гэты спісак быў ужо выстаўлены пасьля назначанага тэрміну. Ня гледзячы на гэтае, літоўцы галасавалі за гэты спісак. Далей дэлегацыя прадставіла напісаны палітоўску адрас, у якім выказваецца пажаданьне: 1) каб палякі паступалі з літоўцамі, як са сваімі; 2) каб Віленскі Сойм падтрымліваў іх гаспадарчыя інтарэсы; 3) каб падтрымліваліся літоўскія школы; 4) каб была зроблена помач у адбудове хат;) 5) каб беззямельныя і малазямельныя былі надзелены зямлёю; 6) каб арыштованыя нядаўна ў Вільні літоўцы былі звольнены, а так сама, каб былі звольнены арыштаваныя ў Коўні палякі; 7) каб панавала свабода; 8) каб былі прыняты у лік дэпутатаў Віленскага Сойму іх прадстаўнікі, якія былі ў сьпіску № 7.

Адрэс падпісаны 442 літоўцамі.

За зьбіраньне подпісаў пад гэтым адрэсам як піша „Gazeta Krajowa", ініцыятары былі мяйсцовою ўладаю арыштаваны, а адрас быў адабраны



# Палітычныя весткі.

## Нота Польшчы Літве.

Міністр Скірмунт паслаў літоўскаму міністру заграніўных спраў гэткую ноту:

Пане Міністр!

Польскі Урад у нотах, якія ён паслаў да Вашай Эксцэленцыі ў апошнія месяцы, ня раз высказваў надзею на дружнае урэгуляваньне пытаньняў, датычачых суседзкіх узаемных адносін паміж абедзьвюма дзяржавамі. Польскі Урад дамагаецца таго, каб як хутчэй ухіліць тыя перашкоды, якія мешаюць установе нармальных беспасрэдных адносін і якія ўплываюць на апошнія ў няпажаданым напрамку. Польскі Урад думае, што насяленьне нэйтральных палос каля Сувалак і Вільні ня можа болей заставацца ў варунках недапусьцімай ізаліраванасьці, без улады, якая-б адказвала за яго безапаснасьць. Урад ўпоўні падзеляе погляд Рады Лігі Нацыяў, які 13 студня г. г. прапанаваў так ці іначай разьдзеліць гэтыя нэйтральныя паласы. Хочучы дагаварыцца аб гэтым беспасрэдна з Літвою. Польскі Урад прапануе Літоўскаму пачаць перагаворы з мэтаю установы дэмаркацыйнай лініі і забраных тэрыторыяў нэйтральных палос пад уладу адноснай дзяржавы.

Прашу, Пане Міністр, прыняць, выразы глыбокага паважаньня.

( — ) Скірмунт.

## Абмен нотамі паміж Саветамі і Польшчай.

Паверань ў справах Польскай Рэспублікі ў Маскве атрымаў ноту Чычэрына, у якой апошні стверджае, што праца белых арганізацыяў на тэрыторыі Польшчы ня толкі ня спыняецца, але ў апошнія месяцы дайшла да вялікіх разьмераў, што сьведчыць аб тым, што міру Расеі і злучаным з ёю рэспублікам пагражае з боку Польшчы новае наступленьне банд петлюраўскіх, перамыкінскіх і іншых арганізацыяў пры дапамозе некатарых органаў улады і асобных афіцыяльных асобаў Польскай Рэспублікі. З прычыны гатуючагася на тэрыторыі Польшчы новага нападу на Расею і яе хаўрусьнікаў, Расейскі ўрад лічыць сваім абавязкам папярэдзіць урад Польскай Рэспублікі, што ў разе новага ўзброенага нападу з боку Польшчы, ён будзе прымушаны ў будучыне знайсьці лепшыя чым цяпер сродкі абароны сваіх граніцаў. Расея ня будзе рабіць рожніцы паміж польскімі войскамі і ўзброенымі атрадамі, ня гледзячы на іх нацыянальнасьць, калі гэтыя атрады будуць наступаць на Расею з боку Польшчы пры дапамозе і з дазволу польскай улады. Ня гледзячы на гэта, Расейскі ўрад спадзяецца, што Польскі ўрад не адкладаючы прыступіць да рашучай ліквідацыі ўсіх белых арганізацыяў і праступнай працы на тэрыторыі Польскай рэспублікі.

Міністр Заграничных спраў Скірмунт у адказ на гэтую ноту даручыў паверанаму ў справах Польскай Рэспублікі ў Маскве перадаць народнаму камісару па заграніўным справам ноту, ў якой стверджвае, што Польскі Урад вельмі зьдзіўлены зьместам і тонам атрыманай ноты і тымі беспадстаўнымі закідамі, якія знаходзяцца ў ноце. Гэтая нота мае на мэце зрабіць націск на суседнія з Расеяй дзяржавы, каб такім парадкам заставіць іншыя эўрапейскія дзяржавы лічыцца з пажаданьнямі савецкага ўраду. З другога боку гэтаю нотаю Савецкі Урад хоча апраўдаць пастаяннае і сыстэматычнае ўхіленьне ад выкананьня сваіх абавязкаў да Польшчы. Усе закіды Савецкага Ураду Польскі Урад з абурэньнем адхіляе. Гэтыя закіды ня толькі беспадстаўныя а маюць мэту апраўдаць цэлы рад фактаў, даводзячых, што ня так ужо моцныя мірныя дамаганьня Савецкага Ураду. Аб гэтым сьведчаць ваінственныя стацьці ў афіцыяльнай расейскай і ўкраінскай прэсе, прамовы асобных членаў Савецкага Ураду, нарешце, перамяшчэньне і концэнтрацыя войскаў на граніцах суседніх з Расеяй дзяржаў. Польшча не мае ніякіх варажых замераў да Расеі і на польскай тэрыторыі не гатовіцца ніякага нападу на Расею. Адначасна Польскі Урад падкрэслівае, што бяручы пад увагу ноту Савецкага Ураду, Польшча зробіць адпаведныя крокі да таго, каб не дапусьціць да выкананьня той пагрозы, якая ёсьць у канцы савецкай ноты.

## Аб Гэнуэскай конфэрэнцыі.

Італьянскі ўрад старанна рыхтуецца да адчыненьня конфэрэнцыі 10 красавіка. Старшынёй на конфэрэнцыі будзе італьянскі прэмьер.

Конфэрэнцыя нэйтральных дзяржаў узгодніла погляды ў справе праграмы гэнуэскай конфэрэнцыі. Прызнана канечным уперад склікаць конфэрэнцыю экспэртаў.

На Гэнуэскую конфэрэнцыю запрошаны: Вялікая Брытанія і Домініі, Расея, Францыя, Італія, Злучаныя Штаты (адмовіліся ад удзелу ў конфэрэнцыі), Бэльгія, Японія, Гішпанія, Партугалія, Швэцыя, Данія, Чэхаславія, Швайцарыя, Германія, Югаславія, Баўгарыя, Грэцыя, Галяндыя, Люксэмбург, Фінляндыя, Аўстрыя, Вэнгрыя, Румынія, Польшча, Альбанія, Эстонія, Латвія і Літва.

## Адстаўка Лёйд-Джорджа.

Большасьць англійскіх газэт лічыць, што Лёйд-Джорджу прыдзецца выйсьці ў адстаўку. Аднак, агенцтва Рэйтэра гэтаму пярэчыць.

## Балтыцкія дзяржавы і бальшавікі.

Бальшавікі канцэнтруюць войскі ўздоўж польска-румынскай граніцы.

На нарадзе румынскага і сэрбскага прэм'ераў у Букарэшце, Пашыч заявіў, што Югаславія гатова даць Румыніі ваенную і палітычную помач, што прадугледжана ў асобнай умове.

## Балтыцкая конфэрэнцыя ў Варшаве.

18 сакавіка скончылася конфэрэнцыя балтыцкіх дзяржаў падпісаньнем умовы naміж, гэтымі дзяржавамі. Тэкст умовы датычыцца: 1) ўзаемнага прызнаньня заключаных з Расеяй трактатаў; 2) заключэньня ў бліжэйшай будучыне ад-

міністратыўных і эканамічных трактатаў; 3) абавязку не заключаць трактатыў, якія былі-б скіраваны проціў якой-небудзь з хаўрусных дзяржаў; 4) забяспячэньня праў нацыянальных меньшасьцяў; 5) вырашэньня ўзаемных непаразуменьняў, 6) захаваньне жычліваг нэйтралітэту ў разе неспадзяванага нападу на каго-небудзь з хаўрусьнікаў.

# РОЖНЫЯ ВЕСТКІ.

## Забастоўкі у Польшчы.

З Пазнані, Львова, Быдгошча, Таруня, Лодзі і іншых прамысловых мяйсцовасьцяў Польшчы паведамляюць аб рабочых забастоўках.

## Забастоўкі у Гэрманіі.

У Баварыі і Віртэнбэргу забаставалі рабочыя мэталёвых і электрычных прадпрыемстваў.

## Прадажа награбленага.

Амстэрдамскія ювэліры адмовіліся купіць ад бальшавікоў партую вялікіх брыльянтаў і некалькі жэмчужных ажэрэльляў дзеля таго, што сярод каштоўнасьцяў ёсьць фамільныя каменьня, якія выйшлі з іх майстэрняў і настаяшчыя ўласьнікі якіх ім вядомы.

## Колькі треба грошаў для збаўленьня Расеі.

„Экономическая Жизнь“ вылічыла, што для збаўленьня Расеі патрэбна 10 мільярдаў рублёў золатам.

## Чума ў Расеі.

З Паволжжа паведамляюць, што лік сьмертных выпадкаў у Самарскай і Астраханскай губэрніях шыбка расьце.

## Антырэлігійная агітацыя.

Маскоўскі Цэнтральны камітэт камуністычнай партыі даў загад камітэтам у правінцыі пачаць антырэлігійную агітацыю.

## Папа мае намер пакінуць Ватыкан.

Паўафіцыяльна паведамляюць, што па аканчэньні эўхарыстычнага кангрэсу ў траўні месяцы г. г. Папа пакіне Ватыкан і за яго межамі адбудзецца ўрачыстая працэсія.

## Паварот да старога.

У Савецкай Расеі вяртаюцца ўласьнікам будынкі, якія ўперад былі бальшавікамі нацыялізованы. Пастаноўлена вярнуць уласьнікам у Петраградзе 10 тысяч дамоў. У Маскве ў бліжэйшым часе будзе адчынена біржа. Арганізуецца гандлёвы суд. Кодэксы цывільны і карны будуць перагледжаны. Утворана камісія для ліквідацыі дзяржаўных трэстаў.

## Новыя грошы.

Саветы ўводзяць білеты ў 10 капеек залатам.

## Голад у Расеі.

У Бэрліне падпісана умова паміж францускім чырвоным крыжам і бальшавікамі аб помачы галадуючым у Расеі.

Англійская палата вобшчын ухваліла дапаўніцельны крэдыт 100 тысяч фунтаў стэрлінгаў на барацьбу з голадам у Расеі.

У Херсоншчыне і Ніколаеўшчыне голад прыймае ўсё балей жудасныя формы. Трупы ляжаць у хатах па колькі дзён, а магілкі загружаны чакаючымі чаргі трупамі. На вуліцах кашмарныя сцэны галоднай сьмерці. Мэлітопальскі, Бердзянскі, Гуляйпольскі, Запароскі і Такмакскі паветы перажываюць усе жудасы Паволжжа. Бываюць выпадкі людаедзтва. Помачы ніякай. („Красн. Газ“. № 36).

У Адэсе і ў адэскім павеце голад пашыраецца. На вуліцах можна бачыць паўразьдзетых галодных сялян.

Арэнбурскія газэты пішуць аб фактах самабойства з прычыны голаду і аб выпадках людаедзтва.

У Царыцынскай губэрніі на цэлыя вёрсты галоднымі абодрана кара з дрэваў; лясы гібнуць.

У Крыму галоднымі зьедзены ўсё быдла і коні. Па дарогах і па вуліцах валяюцца трупы галодных.

У Савецкай Украіне голад так сама пашыраецца. Ужо галадае Канстантынаградзкі павет Палтаўскай губ. („Красн. Газ.“ № 41).

# Зацьменьне сонца.

28-га сакавіка г. г. адбудзецца абручковое зацьменьне сонца, якое пачнецца ў Паўночнай Амэрыцы і будзе відно ў Паўночнай і Сярэдняй Амэрыцы, Афрыцы, Эўропе, за выключэньнем яе паўночных часьцей, і ў паўночна-заходняй Азіі. Лінія цэнтральнага зацьменьня, гдзе зацьменьне будзе абучковае і будзе трываць ад 5 мінут 32 сякундаў да 7 мін. 49 сяк., праходзіць праз Індыйскі акіян, паўночную часьць Судану, сярэднюю Сахару і Канарскія выспы. У нас зацьменьне пачнецца а 3 гадзіне 37 мін. пэ паўдні і кончыцца а 5 гадзіне 27 мін. па паўдні (для Варшавы). Найвялікшая фаза зацьменьня будзе а 4 гадз. 34 мін. па паўдні і тады будзе зацемнена каля чацьвёртай часьці сонца (ніжняя левая частка).

Цяпер ужо ўсе людзі добра ведаюць што нічога нязвычайнага ў зацьменні няма. Усе, нават вучні пачатковых школак добра ведаюць, што зацьменьне сонца бывае тагды, калі месяц (луна), які круціцца наўкола зямлі і часам становіцца ў такое палажэньне паміж зямлёю і сонцам, што закрывае сабою ўсё сонца (поўнае зацьменьне), альбо частку яго (частковае зацьменьне), альбо закрывае сярэдзіну сонца, а краі застаюцца незакрытымі (абручковае зацьменьне).

Зусім іншае становішча было даўней. Людзі лічылі, што сонца закрывае якая-небудзь шатанская сіла, так напрыклад, кітайцы думалі, што на сонца нападаюць, захопліваюць яго страшэнныя чудовішча — драконы.

З даўнейшых часаў людзі стараліся пазнаць запраўдную прычыну зацьменьняў і знайсьці спосабы прадсказваць іх упярод. Так у Кітаі істнаваў матэматычны трыбунал, які павінен быў прадсказваць зацьменьня сонца. Але вядома, калі людзі ня ведалі запраўднай прычыны зацьменьняў, то і не маглі добра прадсказваць. І вось у 2128 г. да Нараджэньня Хрыстова кітайскія астраномы Хі і Ха заплацілі сваім жыцьцём за тое, што не прадугледзелі зацьменьня, якое адбылося ў тым годзе. Цяпер усе зацьменьня вылічаны на доўгі час уперад. Адзін вучоны астраном Оппольцэр вылічыў усе зацьменьня сонца і месяца ад 1207 г. да Нарадж. Хрыст. да 2163 г. пасьля Нарадж. Хрыст. Усе зацьменьня сонца і месяца паўтараюцца праз каждыя 18 гадоў 10 з палов. дзён; за гэты перыяд бывае ўсяго 70 зацьменьняў, з якіх 29 зацьменьняў месяца і 41 зацьменьне сонца (10 поўных, 17 абручковых і 14 частковых).

Зорка.

# Шовіністы

Кожны край мае сваіх шовіністаў і гетулькі шовіністаў, колькі народаў істнуе у гэным краі...

І наша, як кажуць, забытая Богам і людзьмі бацькаўшчына, ў гэным ядыным, амаль, — выпадку не з'яўляецца выключэньнем з агульнага правіла: і ў нас—колькі народаў толькі шовіністычных гурткоў. Есьць у нас шовіністы польскія, ёсьць шовіністы літоўскія, ёсьць, ня гледзячы на ўвесь паказны інтэрнацыяналізм гэнага народу, і шовіністы жыдоўскія, ёсьць, дзякаваць Богу, і шовіністы беларускія

Кажу, дзякаваць Богу, бо калі пачынаюць у сьвеце верыць байкам, што беларусаў няма; дык ня то што за беларускіх шовіністаў, за каўтун будзеш дзякаваць Богу, калі яго называюць беларускай хваробай!..

Аб тым, што ёсьць польскія шовіністы, беларусы ведаюць добра. Але ў істнаваньне нашых, беларускіх шовіністаў, можа іншы беларус і не паверыць дзеля той простай прычыны, што заўсягды чалавеку трудней бачыць тое, што робіцца пад самым носам яго, чым тое, што творыцца на адлегласьці некалькіх крокаў. Але яны ёсьць і ў нас, і як дзьве каплі вады падобны да польскіх. Падабенства гэнае, так вялізарнае, што іншы раз, чытаючы кніжку, альбо газэціну, пісаную па беларуску, думаеш: ці не перадрук гэна з польскага шовіністычнага друку, з заменам слова „паляк" і „польскі" словам „беларус" і „беларускі"?..

Прыкладаў шукаць далёка ня трэба.

Пісака Віленскіх польскіх шовіністаў пан І. Обст гавора: — беларусаў у Віленшчыне няма.

Віленскі пісака беларускіх шовіністаў Пётра Станіч у беларускім календары на 1922 год піша: — палякаў у Віленшчыне няма.

Далей п. І. Обст. — Тое што называюць беларусамі гэта фікцыя, а пад фікцыяй гэнай хаваецца несьвядомы паляк.

Аб тым самым П. Станіч піша гэтак. — Тое, што ў нашым краі называюць палякамі, — гэта беларусы, толькі несьвядомыя.

— Палякі ворагі беларусоў,—гавора П. Станіч.

— Беларусы ворагі палякаў,—крычыць на ўвесь сьвет пан Обст.

Запраўдны беларус толькі той, хто думае і робіць так, як я, — гавора П. С.

— Заўпрадны паляк толькі той, хто думае і робіць гэтак як напісана у „Rzeczpospolitej", — паўтарае пан І. О.

— Рэшта—здраднікі бацькаўшчыны крычыць п. А. П.

Рэшта — „zdrajcy ojczyzny"—як рэха паўтарае пан. І. О.

Як бачыце аналёгія поўная. Прыкладаў гэткіх можна было-бы прывясьці шмат, але здаецца, што і гэтых даволі.

Падабенства гэнае, аб'яўляецца ня толькі ў супольнасьці духоўнай арганізацыі абодвух гэных тыпаў, але гняздзіцца глыбока ў самай фізычнай істоце іх арганізмаў, дасягае навет так далёка, што аднальковыя і апэтыты у абодвух гэных людзей і можна напэўна сказаць, што як пан І. О. з вялікай прыемнасьцю з,еў-бы П. Ст. так сама і П. Ст. ня з меншай прыемнасьцю з'еў-бы нана І. О.

І можна толькі пасьмяяцца, гледзячы на бітвы гэных двох зазлаваных пятухоў, гатовых кінуцца адзін на аднаго, каб зваліўшы на зямлю свайго праціўніка, закрычаць сваю пабедную пятушыную песьню.

Толькі, як бы яны ня пушыліся, не махалі крыльлямі і ня дзёрлі горла, пятухі застаюцца заўсёды пятухамі і ніколі сокаламі не ўзляцяць у край паднебесны, адкуль можна адным паглядам абняць усю зямлю і убачыць шляхі, па каторым пойдзе гісторыя народаў; ніколі крык іх не заглушыць любоўнай песьні салоўка, а горды іх і напушаны пагляд ніколі ня скрывае малога іх сэрца і яшчэ меншага мозгу.

Д. П.

# Чаму няма соцыялізму у Злучаных Штатах Пауночнай Амэрыкі?

Даўно ўжо знаўцамі соцыяльных навук зьвернена ўвага на пастаўленае вышэй пытаньне і на аснове зусім пэўных прычынаў зроблены належныя вывады. Калі пытаньне аб соцыялізьме ў Амэрыканскіх Злучаных Штатах мы будзем разумець літаральна так, як яно тут выглядае, дык кожны, хто трохі цікавіцца соцыялізмам, як тэорыяй перабудовы істнуючага цяпер у сьвеце капіталістычнага ладу, зможа даць просты і зусім лёгкі адказ, прасьцей кажучы, на пытаньне «Чаму няма соцыялізму ў Амэрыцы?» адкажа:—таму, што яго, пакуль што, яшчэ нідзе няма, г. знач., што няма соцыялізму—гэтага ідэалу эканамічнай роўнасьці людзей — на практыцы, няма нідзе

ні ў адным краі соцыялізму, як пэўнага грамадскага ладу, замест таго ладу, які цяпер істнуе ўсюды— буржуазнага, або капіталістычнага.

Кожнаму, хто гэтым цікавіўся, вядома, што соцыялістычны лад ня можа быць уведзены, дзе-б там ня было, замест ладу буржуазнага за якіх-небудзь 24 гадзіны і ня можа адразу той ці іншы край, тая ці іншая дзяржава стаць соцыялістычнаю, калі вакол гэтага краю, або дзяржавы ўсюды застануцца краі і дзяржавы капіталістычныя.

Прыклад сучаснае бальшавіцкае Расеі найлепшы відочны доказ гэтага.

Соцыялісты могуць у тым ці іншым краі захапіць палітычную ўладу ў свае рукі, абвясьціць соцыялістычную дзяржаву, дыктатуру пролетарыяту і г. д., але ад таго, што на вуліцах будуць павяваць чырвоныя сьцягі, кіраваць дзяржаўнымі справамі будзе пролетарская кляса данага краю, сам па сабе зьмест гаспадарчага жыцьця ў краі не пакіне быць настолькі-ж далёкім ад ладу соцыялістычнага, як і раней—да атрыманьня ўлады соцыялістамі.

Соцыялізм — гэта зусім іншы гаспадарчы лад, чымся мы прывыклі дасюль бачыць усюды і пэўна-ж пабудаваньне гэтага ладу ня можа адбыцца нечаканна па ўсім сьвеце, ці хаця-б у тэй часьці сьвету, якая найбольш разьвіта капіталістычна.

Разьвіваць гутарку аб соцыялізьме, як навуцы ў заданьне мы сабе не бяром, бо для гэтага можа служыць кожнаму спэцыяльная на даны выпадак літэратура, а спрабуем па магчымасьці даць адказ на пастаўленае перад сабой пытаньне і азнаёміць гэткім чынам нашых чытачоў з тым, што ляжыць у аснове адказу на пытаньне, які з пэўных даных сам сабою выцякае.

Але, перш за ўсё, паставім сабе ясьней пытаньне аб соцыялізьме ў Амэрыцы. Замест ламаць галаву над тым, чаму ў Амэрыканскіх Злучаных Штатах няма дасюль ладу соцыялістычнага, а пануе самы наймацнейшы капіталізм—лад, калі гэтак сказаць можна, архі-капіталістычны,—мы проста пакажам на прычыны, якія не даюць магчымасьці самому руху соцыялістычнаму разьвіцца ў Амэрыцы хаця-б настолькі, наколькі рух гэты набраў моцы ўжо, напрыклад, у Бэльгіі, Нямеччыне, Франціі і іншых эўропэйскіх краёх.

Што тамуе соцыялістычны рух у Амэрыцы, што перашкаджае рабочым масам Амэрыкі паставіць нароўні з іншымі моцную сваю пролетарскую соцыялістычную партыю?

Вось больш-менш простае пытаньне. адказ на якое нельга зрабіць адным словам.

Цьвярдзіць, быццам у Амэрыцы саўсім няма соцыялістычнага руху, было-б гэтак-жа сьмешна, як аднатонная песьня спрытных палітыканаў аб тым, што зусім няма на сьвеце беларусаў. Аднак дзіўна таксама, што ў гэткай сапраўды дэмократычнай дзяржаве, як Амэрыканскія Злучаныя Штаты, не пасьпеў соцыялістычны рух выперадзіць у сваім разьвіцьці Эўропу.

Шуканьне адказу на цікавае для нас пытаньне ў аднэй толькі нязьмернай велічы багацьця Амэрыкі, ў яе палітычных свабодах не давядзе да толку, хаця шмат якія людзі могуць падумаць: «нашто-ж амэрыканцам соцыялізм, калі яны ўсе багаты, а рабочаму чалавеку там лепей, як усюды».

Кожны мэдаль мае два бакі. Так і амэрыканскае жыцьцё, побач з нячуваным багацьцем буржуазіі, мае ў сабе поўнае безработцьце, а праз гэта й галізну значных масаў пролетарыяту, побач з высокім паважаньнем чалавечае асобы—самую дзівачную эксплёатацыю яе, як фізычнае адзінкі, эксплёатацыю сьмешную іншы раз і бязглуздую на наш пагляд.

Адзін страшэнна багаты расейскі жыд у часе вялікай вайны расказваў мне гэткі цікавы бачаны ім самім абразок з амэрыканскага жыцьця: На беразе мора на глыбокім пяску голыя худыя людзі вазілі на дзеравяных саначках голых, вельмі сытых людзей, разумеецца, за добрую плату. На запытаньне расейскага жыда, якое гэта можа мець лячэбнае значэньне, яму адказалі — ніякага, гэта проста падабаецца амэрыканскім багатырам, іх ахапляе вялікая пацеха, што худыя мускулы бедакоў страшэнна напружваюцца, а косьці трашчаць, калі, моцна напяўшыся, цягаюць яны зусім дабравольна па пяску сытых буржуяў за іх дарагія даляры.

Ці ж мог паліцэйскі бізун, навег у быўшай царскай Расеі, прыгнаць найбяднейшага чалавека да гэткай работы? Ці мог да гэтага змусіць каго-небудзь з нас сам быўшы віленскі гэнэрал-губэрнатар?

Чаго ў Расеі ня мог зрабіць найбольшы парскі слуга, тое лёгка ў Амэрыцы робіць найдужэйшы слуга капіталізму — даляр.

І калі мы прымем на веру гэты скандальны расказік расейскага капіталіста пра яго амэрыканскіх колегаў, дык гэтага аднаго будзе даволі, каб зразумець, колькі дзіўных для нас асаблівасьцяў крые ў сабе амэрыканскае жыцьцё. А ў гэтых асаблівасьцях грамадзкага і палітычнага жыцьця вялікай заакіянскай рэспублікі якраз і тоіцца адказ на тое, чаму тамака няма соцыялізму, чаму, ў параўнаньні з Эўропай, там як-бы на месцы топчацца соцыялістычны рух.

Вядомы знаўца рабочага пытаньня нямецкі проф. Вэрнэр Зомбарт яшчэ ў часе першае расейскае рэвалюцыі апублікаваў адну сваю працу аб соцыялістычным руху ў Амэрыцы, ці праўдзівей аб прычынах, якія ня спрыяюць шпаркаму разьвіцьцю гэтага руху ў Амэрыцы. Дзеля таго, каб знайсьці адказ на пастаўленае сабе пытаньне вышэйназваны вучоны зьведаў як найшырэй: 1) палітычнае палажэньне амэрыканскага рабочага, 2) эканамічнае яго палажэньне і 3) соцыяльнае палажэньне рабочага.

Увесь матэр'ял сабраны па гэтых пытаньнях нямецкім вучоным прадстаўляе сабою вельмі паважную рэч, і дэталічны разгляд яго патрэбаваўбы ад нас вельмі шмат часу. А праз гэта мы пяройдзем да разгляду толькі некатарых найбольш яскравых месцаў сказанага матэр'ялу, ўхіляючыся ад лішніх цыфравых даных і стараючыся трымацца магчыма большай скарочанасьці, маючы на ўвазе недахват месца.

Раней чым перайсьці да хаця-б найкарацейшага зарысу палітычнага, эканамічнага й соцыяльнага палажэньня амэрыканскага пролетарыяту, мы мусім хоць некалькімі словамі спамянуць пра капіталізм Злучаных Штатаў.

Паўночная Амэрыка гэта край, як быццам, на тое толькі й створаны, каб шпарка мог зьбірацца

капітал, дзеля таго, што там вельмі шмат „благародных“ мэталяў: Паўн. Амэрыка дае сьвету адну трэць серабра і адну чацьвёртую часьць усяго золата; гэтак сама багата яна ўрадліваю зямлёю: раўніна Місісіпі ахапляе амаль што ў пяць разоў больш абшар чарназёму, чымся украінскія й вэнгерскія чарназёмныя абшары, ўзятыя разам; шмат там карысных мінэралаў, якіх дабываецца ў тры разы больш, як ува ўсёй Эўропе. Ужо больш, як пятнаццаць гадоў назад, Злучаныя Штаты вытварылі чугуну амаль што гэтулькі сама, колькі ўсе іншыя краі разам (23 мільёны тонаў у 1905 г., а ўсе іншыя краі разам — 29,5 міл. тон.). 55 добрых пристаняў для караблёў на атлянтыцкім беразе таксама-ж нешта значаць. Да ўсяго гэтага — невядомая Эўропе поўная свабода гандлю. Народ, ў крыві якога — вечная пагоня за багацьцем, дабываньне грошай у імя грошай, кожная мінюта часу пераведзена на грошы. Капіталістычны івтэрас бязлітасна йдзе да свае мэты, хаця-б навет шлях яго цхрахадзіў праз трупы. Доказам гэтага могуць быць ведамасьці аб ліку няшчасных здарэньняў на амэрыканскіх чугунках. Гэтак напр., лік забітых на чугунках за час з 1898 — 1900 г. дайшоў 21.847 чалавек. У 1903 г. на амэрыканскіх чугунках забіта 11.006 чалавек, а ў Аўстрыі ў тым самым годзе 172 чал. Банкаўскі капітал дасягае мільярдаў (мільярд — тысяча мільёнаў) даляраў. Паўночна-Амэрыканскія Злуч. Штаты ў 1904 г. мелі ў банках 13. 826.000.000 даляраў, у той час як адпаведныя лічбы для ўсіх іншых краёў разам давалі толькі 19. 781.000.000 дал.

Прамысловасьць зводзіцца ў капіталістычныя арганізацыі — „трэсты“, ў якіх яднаюцца па некалькі тысячаў самастойных прадпрыемстваў з мільярдамі даляраў капіталу.

(Працяг будзе).

К. Незалежны.

## Народныя беларускія песьні.

* * *

Ой, мароз мароз,
Не змарозь мяне!
Не змарозь мяне
У чужой старане,
У паход ідучы,
Каня вядучы.
Конь мой варанец
Я сам маладзец.
У майго варанца
Коскі плятуцца,
У мяне малайца
Кудзеркі ўюцца.
У мяне малайца,
Кудзеркі ўюцца,
За мае кудры,
Дзеванькі бьюцца.
Ах, вы дзеванькі,
Вы ня бійцеся,
Вы ня бійцеся,
Ні сварыцеся.
Ідзіце ў кабачок,
Выпіце кручок,
Выпіце кручок
Памірыцеся.

Пяецца у Вялікім Бару, Краснасельскай гміны, Вялейскага павету.

### Прыпеўкі.

А на небе многа зорак,
Адна зорачка гарыць,
А на сьвеце многа хлопцаў, —
Па адным душа баліць.

А мамачка, коле ў пяты,
Ходзяць хлопцы каля хаты.

Чаму тады ні прышоў,
Як месячык узышоў?
Чаго-ж цябе прынясло,
Як сонейка узышло!

О ўжо сойнейко заходзе,
Пойдзем міленькі дамоў,
Аб нас людзі даўно судзяць,
Што мы любімся с табой.

Скора, скора сьнег разстане,
Крыгі паламаюцца,
Скора, скора мой міленькі
Са мной распрашчаецца.

Узялі мілага ў салдаты,
А брацікa на вайну,
Я па брацiку паплачу,
А за міленькім пайду.

Ня стой мілы пад акном,
Не тапчы маей мяты,
Калі хочаш мяне браць,
Спытай мойго таты.

Спадзе сьнег, спадзе сьнег,
Лістам лес адзенецца,
Скора міленькі прыедзе,
Сэрца успакоіцца.

Паюцца дзяўчатамі у Вялікім Бару, Красносельскай гм. Вялейскага пав.

Падаў Сьцепан Рудзь.

## ВЕСТКІ з КРАЮ.

### „Ня плюй у студню, бо мо прыдзецца вады напіцца“.

Нейкі час, а навет і доўгі, пражывалі сабе два гультаі-маскалі ў Сычэўскай школе. Лічыліся яны сабе вучыцелямі. Аднаго звалі Барыс, а другога «Шашка». І вось, яны, упярод лічылі сябе

„ісьціна-рускімі“. Пасьля нейкае ліха таўканула ім у мазгі зрабіцца „беларусамі“. Да гэтага часу, лаялі яны палякоў і беларусаў—на чым сьвет стаіць. Заходняя культура была для іх самым зласьнейшым ворагам. Сяляне нашы скора гэтых „беларусаў“ выпярлі вон. І што-ж нарэшце?—Раманоўскі Барыс і Гайка „Шашка“ „бух“ у Кракаў на вучыцельскія польскія курсы. Вось табе! Пляваlі на заходнюю культуру, а пасьля давай лезьці ў яе скуру.

Ай паночкі!—раскусяць вас скора і там. „Хоть ты и в новой кожѣ, а сердце у тебя всё тоже“—кажа ваша маскоўская байка.

Пранук Парушэнец.

## Лазьня з капліцы.

Рэдакцыя атрымала копію пратаколу, які ў пераtлумачэньні з польскай мовы друкуем:

*Копія.*

### Пратакол.

*Дня* 1 *лютага* 1922 *г.*

*Да маей канцэлярыі зьвярнуўся ксёндз-пробашч Валеўскай парафіі, Навагрудзкага павету і заявіў, што ў вёсцы* Незнамове, *на праваслаўных могілках, 3-і швадрон 25 палку Вяліка-Польскіх уланаў разабраў капліцу, перанёс яе на іншае мейсца і зрабіў з яе лазьню, аб чым пробашч мейсцовай парафіі ня быў паведамлены.*

*Дапрос зьнімаў ксёндз-дзекан Навагрудзкага павету (—) Базыль Баброўскі.*

*Паказаньне даваў (—)* А. *Серпаў.*

**Несьвіж,** Навагруд. ваяводзтва.

Засьвяціла сонца і ў наша ваконца!
Прыждалі й мы Несьвіжане дабрабыту.

Гэтымі часамі зьявіўся ў Несьвіж наш князь Радзівілл і зараз-жа зьвярнуў сваю ўвагу, што на грэблі, якая йдзе ад Вострае Брамы на Новае Места, вельмі-ж дрэнны хаднік (тратуар), а затым распарадзіўся, каб хутка яго паправіць, бо хаця й клалі дошкі ў прошлае лета, але да восені хаднік гэны стаў да таго нягодны, што ня толькі па ім нельга было хадзіць, але й падыйсьці было небязпечна, каб незачапіцца за дошкі і паленьня, стаячыя . ыбам, і хто йш ў, то толькі сярэдзінай грэблі...

Цяпер-жа мы ходзім па дошках і ня месім балота, як праз усю восень мясілі.

Спадзяваемся, што мо гэны-ж самы князь зьверне сваю ўвагу і на „яму“ на гэнай-жа самай грэблі, з правага боку, напроціў „шлюза“, гдзе зямля абсунулася яшчэ з прошлага году, а сёлетняй вясны пабольшала, і распарадзіцца паправіць, бо ні адзін і цьвярозы чалавек (не гаворачы ўжо аб скаціне) можа неспадзянкаю, чы неасьцярожна, папасьці туды, а падаючы з высокае грэблі, што найменей, пакалечыцца, калі не забіцца насьмерць.

Спадзяваемася, таксама, і маем надзею на Бога, што з часам прыходу вясны, спыняцца ў нашым месьце зладзействы, каторыя да гэтуль амаль ня кожнай ночы здараліся: то бялізну з стрыху гдзе паздымаюць, то сьвіньню ў каго з хлева выцягнуць, ня лічачы іншых дробных зладзействаў, якіх шмат здарылася за прошлую восень і зіму...

Гэтымі днямі зладзеі абакралі нашага бурмістра, п. Сушыньскага, і ажні на 600 тысячаў мар. прычынілі яму, небараку, шкоды; а як паведамляе тутэйшая мяйсцовая газэта „Gazeta Nieświeska“ з дня 11 сакавіка 1922 г. ў № 15—вядзецца сьледзтва, і ўся паліцыя пастаўлена на ногі, каб палавіць злачынцаў, то мы дзякуема Богу (не падумайце часамі, што дзякуема Богу, што абакралі бурмістра, Божа барані ўсіх добрых людзей ад такой бяды!), што пачалося сьледзтва, і паліцыю паставілі на ногі, зладзеяў наканец паловяць, і зладзействаў ня будзе ў нас.

Тутэйшы.

12—3—1922 г.
Несьвіж.

**В. Сычавічы,** Радашкоўскай валасьці.

Рэчка Рыбчанка, каля якой раскінулася гэтая вёска, цячэць у паўночным напрамку, прытуліўшы на сваіх берагох шмат вёсак і сяліб. Берагі Рыбчанкі досыць высокія, вада цячэ шыбка што даець магчымасьць будаваць фабрыкі і млыны, якіх па праўдзе кажучы, ніхто і ня будуе, за выняткам п. Янішэўскай. Янішэўская-ўладарка тутэйшых маёнткаў Каралёўкі і В. Бакшты. Наважыўшы пабудоваць млын, які тут быў і дагэтуль, але ў часе вайны згарэў, сілком амаль хоча адабраць у сычаўцаў іх уласную зямлю. Бо яе млын быў пабудованы на сычаўскай зямлі, а стаў гэтакжа затапляў сычаўскую зямлю. Упярод Янішэўская хацела памяняць Каралеўку 60 дзесяцін на гэную зямлю з сычаўцамі, каб апошнія аддалі ёй сваю, якую яна затапляла млынам, але, як кажа прыказка: „Хітры з разумным мала гавора“ — не дагаварыліся, то сычаўцы баяліся, каб іх не абманула п. Янішэўская, то апошняя баіцца сычаўцаў. Так і таргуюцца як журавель з чапляй і да толку не дайдуць.

Разказваючы усё гэта сычаўскі селянін, вельмі мяне зьдзівіў. Чаму-ж пытаюся, яны не мяняюць? Гэта-ж 60 дзесяцін сенажаці і ворнай зямлі далуць большую карысьць, чым вашы равы вырытыя вадой!?—Ды ня ў тым справа паночку, адказаў мне мой раскашчык: Зямелькі ў нас мала, пашы няма і сычаўцы вельмі хацелі-б, каб замяняць. Але гэта пані хоча, каб для сябе лепей зрабіць. Зямля над возерам (млынам) усіх нашых сялян, а яна знашоўшы ў Сычавічах некалькі чалавек гарлачоў, хабарнікаў, палавіну сяла выкінуць хоча і даць абмену толькі часткі. Самы горшы з гэтых нашых вясковых круцялёў Пракоп Трацяк. Ен, паночку, родную жонку за паўкварты злому татарыну ў залог аддасьць, а ня то нашу агульную беларускую справу—будзе бараніць. Тота той самы Пракоп, які пры бальшавіках у ве-

ласьці нейкім камісарам быў, дзе прывык да хабароў, на якія забыцца ня можа і цяпер. Але як той кажа: „круцячы сьвет пройдзеш, але назад ня вернешся„ — дабавіў мой раскашчык, і я паехаў далей.

Пранук Парушэнец.

### Забойства.

Вёска ІВОНЦАВІЧЫ, Краснасельскай воласьці.

На гэтых днях каля гэтай вёскі знайшлі забітымі дзяўчыну і кабету. Дзяўчына гэтая 19 г. Карчміт з вёскі Гарнякоў, Краснасельскай воласьці.

Дзяўчына круглая сірата, год таму назад, яна, як кажуць, служыла у Парадоўшчыне ў аднаго вельмі багатага гаспадара, які займаўся зладзействам і разбойствам. Сёлятні-ж год яна ў яго не асталася, а пайшла служыць да суседа ў тэй-жа вёсцы (ці мяйсцовасьці). Гэны злодзей, кажуць, намовіў дзяўчыну, каб яна пайшла пераведаць сваю цётку ў в. Івонцавічы, якая бытцам-бы умірала. Гаспадыня, ў якой служыла дзяўчына Карчміт, адну яе не пусьціла, а паслала з ёй дачку сваю, муж якой згінуў на вайне. Прышоўшы ў Івонцавічы, жанчыны цётку застаі зусім здаровую. Цётка правяла іх з вярсту і вярнулася.

Пасля-ж гаспадыню і дзяўчыну знайшлі забітымі. Гаспадар, у якога год таму назад служыла дзяўчына, кажуць арыштаваны. Вядзецца сьледзтва. Забойства вельмі цікавае і таёмнае.

Што далей будзе вядома аб гэтым жудасным выпадку, будзе ў свой час напісана.

Дзед Тадэвуш.

12. III. 1922 г.

**Радашкавічы,** Вялейскага павету.

У апошнія газэтныя весткі аб тым, што маскоўская чырвоная навала ізноў зьбіраецца ваяваць, наша узьмежнае з бальшавікамі сялянства— ня верыць і на гэныя весткі махае рукамі. Як-жа, кажуць сяляне, яны здоляюць вайну вясці, калі бальшавіцкія салдаты, якія нясуць узьмежную з Польшчай службу, ходзяць абадраныя, голыя, босыя. На дзесяцёх чырвонаармейцаў адзін шынэль. Абуцьце: адзін лапаць, другі які-небудзь атопак, ці валенак. Галодныя, як тыя сабакі. А пры Польскай граніцы яны лепі жывуць, чымся ў глыбіне гэнага чырвонага раю. І то немагчыма, каб яны былі здольны да вайны.

*„Хіба Лейбу Троцкаму бакі засьвярбелі, дык яму паскобляць іх“* кажуць так нашы беларускія сяляне.

Вось табе і вер і варажы, ці будзе вайна ці не?! Усе цяпер „палітыкі“.

Дзед Тадэвуш.

**Радашкавічы,** Вялейскага павету.

У пагранічнай частцы Беларусі пад бальшавікамі, ходзяць толькі польскія маркі, на якія вядзецца і таргоўля і ўсё такое. Троцкага „мільярды“ ня маюць жаднай вартасьці.

Тыфус у вёсках пры граніцы покатам коціць людзей. Вось і рай чырвоны, няхай ён згіне, дасьць Бог!

Д. Т.

## Лекцыя кс. А. Станкевіча.

У нядзелю 19 гэтага сакавіка ў памешканьні 1-й Віленскай Беларускай Гімназіі, на карысьць прытулку пры гэтай гімназіі, кс. А. Станкевіч прачытаў лекцыю на тэму: „Жаночы рух і беларуская кабета“.

Зрабіўшы кароткі, але дакладны агляд палажэньня кабеты ў розныя пэрыяды гісторыі людзкасьці, пачынаючы з часоў старажытнай Грэцыі, да апошніх прадваенных часоў,—лектар адзначыў пяступовае разьвіцьце змаганьня кабеты за свае правы ў розных галінах грамадзкага эканамічнага і палітычнага жыцьця.

Роль, якую адыграла беларуская кабета ў разьвіцьці гэтага руху да апошняга часу цесна зьвязана з агульна-жаночым рухам нашых бліжэйшых суседзяў: расейцаў і палякоў, і толькі нядаўна, дзякуючы сьвядомым беларускім кабетам, як Цётка (Кэйрысова) і інш., змаганьне беларускай кабеты за свае правы было зьвязана з беларускім нацыянальным адраджэнскім рухам, і праца сьвядомых беларускіх кабет прынясла вялікую карысьць, асабліва ў справе народнай асьветы.

Лектар прыдае вялікую вагу справе эмансыпацыі беларускай кабеты, становішча якой у цёмных народных масах надзвычайна цяжкае, і зьвязвае працу кабет у гэтым кірунку з справамі агульнага беларускага нацыянальнага адраджэньня, бо толькі зусім свабодная і сьвядомая сваіх правоў і абавязкаў кабета—можа ўзгадаваць маральна-здаровае і нацыянальна-сьвядомае будучае пакаленьне.

Публікі было шмат, саля—перапоўнена. Удзячныя кабеты паднясьлі лектару букет жывых кветак

Намечаецца цэлы рад лекцыяў па жаночаму пытаньню. З чарговай лекцыяй на гэную тэму выступіць п. Трэпка.

Я. Л—віч.

## Беларускае жыцьце.

### Справа высланых беларусаў.

„Wap“ паведамляе: жонкі арыштаваных і вывезеных у Літву беларускіх і літоўскіх дзеячоў зьвярнуліся да гэн. Макжэцкага з просьбаю аб пазваленьні на зварот іх мужам. У бліжэйшыя дні адбудзецца конфэрэнцыя Тымчасовай Урадуючай Камісcі ў гэтай справе.

### Зьмены у Віленскай беларускай гімназіі.

У хуткім часе чакаюцца зьмены на кіраўнічых пасадах у Віленскай беларускай гімназіі.

### Дырэктар беларускай гімназіі у Радашковічах.

Дырэктарам беларускай гімназіі у Радашковічах назначаны доктар філёзофіі і теолёгіі прафесар ксёндз Абрантовіч.

### Помач Навагрудзкай беларускай гімназіі.

Краёвая Сувязь паслала для бяднейшых вучняў Навагрудзкай беларускай гімназіі дзесяць камплектаў цёплай бялізны і 20000 марак грошы.

### Набажэнства на беларускай мове.

Патрыярх Ціхан выдаў загад аб дапушчэньні ў царквах у межах этнаграфічнай Беларусі дадатковага набажэнства ў беларускай мове; таксама Патрыярх Ціхан пастанавіў, каб на япіскапскія пасады назначаліся мяйсцовыя ўражэнцы, ведаючыя беларускую мову.

## Цікавая гісторыя.

### Колькі усяго самаходаў на сьвеце.

Англійскі журнал „Automotive Jndustries“ дае статыстыку самаходаў, якія знаходзяцца ў руху, на ўсім сьвеце. Аказваецца, што ўсіх самаходаў 12.588.949. З гэтага ліку Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі маюць львіную долю, пяць шостых агульнай лічбы (10.505.606). Далей ідуць Вялікая Брытанія з 497.582 самаходамі, Канада 3.463.448, Францыя з 236.146, Германія з 91.384 і гэтак далей. Польша з 10.700 самаходамі ў тым сьпіску займае 28 мейсца (сьпісак налічвае ўсяго 78 краёў і мяйсцовасьцяў). Апошняе мейсца займае Монровія, сталіца негрыцянскай рэспублікі Лібэрыі, з 3 самаходамі.

### Дзіўны выбрык прыроды.

У аднэй вёсцы пад Кракавам прышло на сьвет дзіця мужчынскага полу — праўдзівы выбрык прыроды. Адна ножка гэтага дзіцяці зусім як казіная. Выпадак гэты зрабіў ва ўсей ваколіцы сэнсацыю, а цёмныя сяляне гавораць, што гэта шатанскае знаменьне будучага „Антыхрыста“, а „кумачкі“ перакопаны, што ніводзін ксёндз гэтага дзіцяці не ахрысьціць.

### Тыднёвы календарык.

| Праваслаўны | | | Каталіцкі | | Сонца | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Чысла | Дні | САКАВІК | Чысла | САКАВІК | Усход г. м. | Заход г. м. |
| 10 | Ч. | С. м. Кандрата | 23 | Нікона | 6 02 | 6 15 |
| 11 | Пц. | Сьв. Сапрана | 24 | Маркі і Цімоха | 5 57 | 6 17 |
| 12 | Сб. | Прп. Феона Сыр. | 25 | Зьвяставаньне Н.М. Дз. | 5 55 | 6 19 |
| 13 | Н. | 4 Вял. п. Іоан. Ліс. | 26 | 4 посту. Люд. Тэклі | 5 51 | 6 21 |
| 14 | Пн. | Прп. Бэнэдыкта | 27 | Яна Дамаск. | 5 49 | 6 24 |
| 15 | А. | Агапа | 28 | Яна Кміпістрана | 5 46 | 6 26 |
| 16 | Ср. | Савіна | 29 | Аўстазага Оп. | 5 43 | 6 29 |



Рэдактар-выдавец М. Тулоўскі. Друкарня «ДРУК», Субач 2.